У нумары: ВІНЦУК САВА ○ БАРЫС НІКІЦЮК ○ АЛЕСЬ ЧАБОР


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 27 (282) | ГОД VII | БЕЛАСТОК 8 ЛІПЕНЯ 1962 | ЦАНА 60 ГР.


# ТРЭБА ГАСПАДАРЫЦЬ ПА-НОВАМУ

Зараз на Гайнаўшчыне налічваецца 67 сельскагаспадарчых гурткоў з 1234 членамі. 47 гурткоў сельскіх гаспадынь з 744 членамі і 36 гурткоў моладзі з 242 членамі, якая бярэ ўдзел у завочнай падрыхтоўцы да гаспадаркі. Сельскагаспадарчыя гурткі існуюць у Гайнаўскім павеце ў 46% вёсак (салэцтваў) і аб'ядноўваюць 15,9% гаспадарак, якія ахоплены абавязкам пастаўкі збожжа і бульбы. Замала гаспадароў належыць да гурткоў у вёсцы, дзе яны знаходзяцца, бо ў сярэднім 30%. А ёсць выпадкі, як напрыклад у Курашаве, дзе пражывае 160 гаспадароў, а да гуртка належыць толькі 10. У Кляшчэлях на 260 гаспадароў сарганізаваных ёсць 19, у Чыжах на 182 да гуртка належыць 30 гаспадароў. Вось тут і цяжкасць у добрай працы гурткоў. Фонд сельскагаспадарчага развіцця прызначаны для цэлай вёскі, а гаспадарыць і распараджацца прыходзіцца невялічкай групы гаспадароў. Такой малой групы трудна сабраць свой уклад на трактар з камплетным складам, трудна знайсці адпаведнага чалавека на старшыню і рахункавода, каб праводзілі добра работу. Так што найважнейшым нашым заданнем, апрача далейшага арганізавання новых гурткоў, ёсць разбудова і пашырэнне ўжо існуючых гурткоў. Шмат гаспадароў зразумела сэнс працы гуртка і дэкларуе свой удзел. У час справаздаўча - выбарчай кампаніі ў гуртках уступіла ў іх 84 новыя члены. А, напрыклад, у гуртку ў Семяноўцы на штогадовым сходзе прыступіла 11 членаў. Яны сабралі свой уклад і 25 чэрвеня закупілі агрэгат да малацьбы. Паміма некаторых недахопаў Гайнаўскія гурткі ў апошні час хутка механізуюцца. Галоўнай справай прагрэсу ў сельскай гаспадарцы, павышэння ўраджаю, а таксама даходнасці ёсць механізацыя працы ў полі.

(Працяг на стар. 4)



ЛУГ Фота М. Валкавыцкі

## АБ'ЯВА

У сувязі з рамонтам ратацыйнай машыны вымушаны будзем ад сённяшняга нумару на працягу некалькі месяцаў друкаваць «Ніву» без колеру. Просім нашых чытачоў на гэты перыяд выбачыць «Ніве» яе некаляровае афармленне.

Рэдакцыя

Вінцук Сава

# ЯЗЭПАВА ЦАГЕЛЬНЯ

Вецер гуляў па пустым павецям цагельні ў Залуках. Па ўсёй цагельні бачылася непарадак і пустату.

«Незадоўга зноў ажыве мая цагельня» — думаў Язэп. Ён называў яе сваёй, хаця ў сапраўднасці яна была пад залогам у Дзяржаўным банку за даўгі.

— Калі рушым цагельню? — адазваўся неспадзявана голас суседа.

Язэп вычуў у голасе іронію, але не даў па сабе пазнаць. Выняў з кішэні папяросы, пачаставаў суседа.

— Незадоўга, — адказаў. Зацягнуўся дымам. — Вытворчы кааператыў арганізую.

— Ты, кааператыў? — здзівіўся сусед. Ён ведаў добра, якія былі адносіны да кааперацыі з боку Язэпа.

— А што ж ты думаў, — засмяяўся Язэп. — Эх, ты, адсталы элемент. Трэба паспяваць за часам. У Гарадку арганізую кааператыў будаўляных матэрыялаў. Улады зацвердзілі. Незадоўга перавязём туды цагельню.

Гаварыў спакойна, з пагардай, як бы для яго гэткі пачын прыйшоў лёгка. У сапраўднасці ж справа не ішла так гладка.

Восенню і зімою 1959 г. Язэп часта праводзіў цэлыя дні ў Гарадку. Вёска згарэла, людзі адбудоўваюцца. З будаўнічым матэрыялам цяжка. Ахвотнікаў на яго многа. Толькі давай. Але калі прыходзіла да гутаркі аб кааперативе, кожны моўк і хаваўся за іншых. Не верылі. Столькі разоў ужо апарыліся.

Але Язэп не быў з тых, якія адступаюць перад цяжкасцямі. Паступова ён здабываў давер.

У лютым 1960 г. дайшло да агульнага сходу. Праўда, прышло ўсяго пяць асоб. Язэп быў выбраны старшынёй.

Пяць асоб на кааператыў замала. Язэп хадзіў з хаты ў хату.

— Цэгла вам патрэбна? — пытаўся.

— Яшчэ як патрэбна, — адказвалі пагарэўшыя.

— Пятнаццаць, дваццаць тысяч? — пытаў Язэп і ўпісваў адпаведную цыфру на паперу. — Ну дык падпішы, што табе патрэбна столькі цэглы. Цагельня незадоўга распачне прадукцыю, кааператыў сарганізаваны, — гаварыў ён, падсоўваючы паперу, на якой былі ўжо іншыя прозвішчы, цыфры, цэглы і подпісы.

Падпісала пяць асоб. Не чыталі, што над прозвішчамі напісана. Не ведалі, што яны падпісваюць заяву, што прыступаюць да кааператыва і дэкларуюць як свой удзел бясплатнае выпрадукаванне адпаведнай колькасці цэглы.

— Дзесяць сяброў — гэта ўжо штосьці, — думаў Язэп. — Але ўсё ж такі малавата. Падумаўшы, ён дапісаў яшчэ шэсць прозвішчаў і сам падпісаўся каля гэтых прозвішчаў.

Уплочана 30 тысяч уступных паёў. За гэтыя грошы Язэп перавёз машыны і павець. Гэта ўзмоцніла давер сялян да Язэпа.

— Бачыце, не шкадую сваіх машын і ўладжванняў, а вы не хочаце падтрымаць карысны пачын, — дакараў ён сялян.

Але галоўная мэта стаяла на перадзе. Трэба было ўзяць пазыку ў Рольным банку. Але банк мусіў ведаць, што кааператыў мае нейкую маёмасць і перспектывы развіцця.

А кааператыў фактычна ніякай маёмасці не меў. Паявыя ўзносы былі расходаваны, а машыны належалі да Рольнага банку.

Але ад чаго галава на карку.

(Працяг на стар. 4)

## УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА

* ✲ *

Я люблю густыя шумы,
Перагуд высокіх хвой,
У цень і ціш лясной задумы
Я люблю прыйсці вясной.
Спачываючы ад болю,
Ад няпраўды і маны,
Пазнаваць чужую волю,
Дыхаць пахам сасніны
І, спусціўшыся лагчынай
У зарослы дол сыры,
Між бяроз, густой ляшчынай
Заблудзіцца ў гушчары,
Дзе таемна, сцішна, змрочна,
Дзе вільготны, мяккі мох,
Дзе ўзіраецца ставочна
Збуджаны перапалох.



Маладыя рыбакі

Фота М. Валкавыцкі

 

СПАБОРНІЦТВА: КАМУНІЗМ — КАПІТАЛІЗМ

# Эканоміка вырашае

У сувязі з праведзенай нядаўна ў Маскве сесіяй Савета ўзаемнай эканамічнай дапамогі, у склад якога ўваходзіць большасць сацыялістычных краін, варта пазнаёміцца з актуальным станам эканамічнага спаборніцтва паміж сацыялізмам і капіталізмам.

Нядаўна, таму што яшчэ ў 1955 годзе, удзел сацыялістычных краін у прамысловай вытворчасці ў сусветным маштабе складаў 27%. А ўжо ў мінулым годзе узрос да 37% і ўсе прыкметы гавораць, што будзе і надалей шпарка расці.

На якіх асновах абапіраем гэтае сваё меркаванне? — Дык вось у 1956—61 гг. сярэдні гадавы ўзрост прамысловай вытворчасці ў краінах нашага лагера склаў 13%, а ў капіталістычных краінах — 4%. Інакш гаворачы, тэмпы павялічэння вытворчасці з'яўляюцца ў нашых краінах тры, а ў апошнія гады тры з палавай раза шпарчэйшыя, чым у капіталістычных краінах. З гэтага можна выцягнуць толькі адзін вывад: няўхільна і хутка набліжаецца час, калі сацыялістычныя краіны зраўняюцца, а пасля здабудуць перавагу ў агульнай прамысловай вытворчасці свету.

Планы прадбачваюць, што ў 1980 г. прамысловая вытворчасць у краінах нашага лагера будзе ў 9,5 раза большая, чым у 1960 годзе. Можна меркаваць, што ў гэтым жа самым дваццацігоддзі прамысловая вытворчасць капіталістычных краін павялічыцца ў 2,2 раза. Калі б гэтыя прадбачванні здзейсніліся, а абапіраюцца яны на навуковых асновах, дык у 1980 годзе краіны нашага лагера ўдзельнічалі б ужо ў двух трэціх прамысловай вытворчасці свету. Варта пры гэтай аказіі прыпомніць, што ў параўнанні з 1937 годам прамысловая вытворчасць сацыялістычных краін з'яўляецца зараз 7,5 раза вышэйшай, а капіталістычных краін — 2,5 раза. З гэтага параўнання таксама можна выцягнуць вывады на будучыню.

Сацыялістычныя краіны маюць вельмі спрыяльныя ўмовы для дасягнення перавагі ў прамысловай вытворчасці. Напрыклад, наш лагер распараджае невычэрпнымі прыроднымі багаццямі (мінеральнымі). Вось дзве трэціх сусветных запасаў каменнага вугалю, больш чым палова ведамых запасаў жалезнай руды і баксіту, каля 90% сусветных запасаў манганавай руды і г. д. знаходзяцца на тэрыторыі сацыялістычных краін.

Незвычайна цікавымі прадстаўляюцца таксама даныя, адлюстроўваючыя ўзрост значэння сацыялістычных краін на працягу апошняга дзесяцігоддзя ў вытворчасці найважнейшых прамысловых вырабаў. Вось, напрыклад, калі ў 1950 г. краіны нашага лагера давалі 8,4% сусветнай вытворчасці нафты, дык зараз гэты ўдзел павялічыўся амаль да 16%. Даныя для электраэнергіі складаюць — 14,9% у 1950 г. і 21,3% зараз; для сталі — 19,2% і 31,8; таксама для цукру — 16,3% і 24,3%. Мы спецыяльна гаварылі аб гэтых, менавіта, паказчыках, у якіх асабліва наглядна можна было пабачыць вялікую дыстанцыю, каб адзначыць шпаркія тэмпы ўзросту прамысловасці сацыялістычных краін.

І яшчэ адно: паводле даных з пачатку г. г. насельніцтва сацыялістычных краін налічвае зараз І мільярд 72 мільёны асоб і складае 35,5% насельніцтва свету. Азначае гэта, што ўжо ў мінулым годзе прамысловая вытворчасць сацыялістычных дзяржаў, улічваючы колькасць насельніцтва, была вышэйшай, чым сярэдняя вытворчасць ва ўсіх капіталістычных краінах.

У цяперашняй фазе спаборніцтва паміж сацыялізмам і капіталізмам разыходзіцца ўжо не толькі аб апераджэнне цэлай капіталістычнай сістэмы, але таксама аб апераджэнне належачых да яе найбольш развітых краін.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

## Усеагульная забастоўка лясных рабочых у Белавежскай пушчы 7)

Пасля двухдзённых абрадаў быў падпісан дагавор паміж дырэкцыяй і Акруговым праўленнем саюза драўлянай прамысловасці. Улічваў ён шэраг патрабаванняў лясных рабочых. Большасць месца ў дагаворы прысвечана цэнам за падрыхтоўку сыравіны з розных гатункаў дрэў. Зарплата рабочых у гэтай галіне ўзрастала на 25%. У параўнанні, аднак, да пастаўленых у час забастоўкі пастулатаў была гэта палавінчатая перамога. Толькі ў 50% абяспечвала яна патрабаванні бастуючых.

Павышэнне абымала, аднак, толькі беззямельных рабочых. Устаноўлена іншую сістэму аплаты беззямельных рабочых і тых, якія мелі гаспадарку. Першая катэгорыя рабочых павінна была аплачвацца паводле вышэйшых ставак. З гэтай мэтай падзелена пушчу на акругі беззямельных і сялян.

Асабліва пакрыўджанымі былі вазакі, якія не атрымалі павышэння зарплаты.

Апрача павышэння зарплаты, палепшання ўмоў працы, дагавор прадбачваў стварэнне дадатковых крыніц даходаў для беззямельных рабочых. Мелі імі быць зямельныя і пашавыя дэпутаты.

Важнае практычнае значэнне меў таксама факт, што дырэкцыя абавязвалася сачыць, каб у паасобных надлясніцтвах праводзіўся рэгулярны прыём работ, давалі тэрміновыя задаткі і выплачваліся цэлыя заробкі ў грашовай форме. Гэтым самым элімінавана аплату за працу ў форме выдачы квіткоў на спажывецкія прадукты.

Цяжкая праблема абеспячэння прыладамі працы знайшла таксама адлюстраванне ў гэтым дакуменце. Дырэкцыя гарантавала абеспячэнне лясных рабочых прыладамі на выгадных для іх

### Другі этап забастоўкі. Вынікі барацьбы

умовах. Перад забастоўкай гэтай праблемай наогул лясныя ўлады не цікавіліся. Рабочыя самі клапаціліся пра пілы, сякеры і іншыя прылады. Куплялі іх у прыватных гандляроў за высокія цэны.

Аб ахове здароўя дагавор не ўспамінаў. Была размова ў ім толькі, што „у выпадку няшчасных здарэнняў, а таксама нечаканых аслабленняў дырэкцыя будзе аказваць лекарскую дапамогу».

Было гэта, несумненна, дасягненне ў параўнанні з папярэднім перыядам, калі рабочыя былі цалкам пазбаўлены бясплатнага лячэння, нават у выпадку вялікага калецтва ў часе працы. Аднак з другога боку не атрымалі яны поўнага застрахавання сябе і сваіх сем'яў. З дагавору цяжка зрабіць вывад, ці лекарская дапамога абымала ўсіх рабочых, ці толькі беззямельных.

Вялікае значэнне мелі ўступкі дырэкцыі ў справе палепшання жыллёвых умоў. Дырэкцыя адказвалася ад практыкавання эксмісій з зямлянак і баракаў. «Дырэкцыя будзе аказваць дапамогу, — гаварылася ў дагаворы, — у будаўніцтве ўласных памяшканняў шляхам выдачы ім драўляных матэрыялаў на ільготных умовах». Дырэкцыя абавязалася таксама праводзіць рамонты баракаў і абяспечваць іх вадой і палівам. Абяцала яна таксама разгледзець справу аплаты за памяшканне ў бараках і ўладзіць яе, улічваючы інтарэсы рабочых.

Дырэкцыя абавязалася арганізаваць абеспячэнне лясных рабочых спажывецкімі прадуктамі. Рабочым гарантавана карыстанне пасажырскім транспартам вузкакалейкі. Раней яны былі вымушаны хадзіць пяшком.

Падсумоўваючы, трэба сцвердзіць, што асноўныя пастулаты бастуючых знайшлі адлюстраванне ў дагаворы, аднак не ўсе яны былі належным чынам вырашаны. Асабліва гэта адносіцца да вялічыні заробкаў і лекарскага страхавання. З дасягнутых умоў карысталі першым чынам беззямельныя рабочыя, у меншай меры рабочыя, якія выводзіліся з вёскі.

У замен за ўступкі, якія зрабіла дырэкцыя ў адносінах да рабочых, Акруговае праўленне прафсаюза абавязалася 10 снежня 1932 г. спыніць забастоўку.

Б. НІКІЦЮК

## БЕЛАСТОЦКАЯ ХРОНІКА

**26 чэрвеня ў Беластоку адбылося пленум Ваяводскага праўлення Лігі жанчын, прысвечанае абмеркаванню спраў, звязаных з ангажаваннем жанчын да працы і павышэннем іх прафесіянальнага ўзроўню.**

*

**26 чэрвеня ў Беластоку адбылося пленум Ваяводскага праўлення Лігі сяброў салдата. Абмяркоўваліся заданні, якія стаяць перад арганізацыяй. Асноўным з іх — актывізацыя нізавых звенняў, асабліва вясковых клубаў.**

*

**27 чэрвеня адбылося супольнае пленум Ваяводскага Саюза сельскагаспадарчых гурткоў і Ваяводскага праўлення Саюза сялянскай моладзі. Пленум прысвечана было актывізацыі сялянскай моладзі, падрыхтоўцы тэхнічных кадраў і сельскагаспадарчай асвеце.**

*

**28 чэрвеня ў Аўгустове адкрыўся трохдзённы краёвы з'езд Польскага аб'яднання інжынераў і тэхнікаў санітарных. Тэма з'езду: прыспяшэнне тэхнічнага прагрэсу ў газаўніцтве і санітарнай інжынерыі. У з'ездзе ўзяло ўдзел 400 дэлегатаў, у іх ліку шматлікія вучоныя.**

*

**30 чэрвеня ў Беластоку адбыўся з'езд любіцеляў зямлі беластоцкай. З'езд паклікаў да жыцця Таварыства любіцеляў зямлі беластоцкай, прыняў статут і выбраў улады. Старшынёй ваяводскага праўлення Таварыства выбраны дырэктар ваяводскага аддзялення Нацыянальнага банка польскага — Леан Мельвінскі.**




### Мілер атрымлівае прэмію

Вестка, што Мілер падстрэліў нейкага невядомага ў турэмнай вопратцы, усхвалявала ўсіх, хто браў удзел у пошуках Поля Шанье. Складалася на тое, што куля начальніка СД трапіла якраз у таго небяспечнага злачынца. Па расказах самога Мілера сталася так: вяртаючыся ўчора падвечар з адной горскай вёскі, ён крыху скрунуў са сцежкі і прыкмеціў за скалай нейкую невыразную постаць. Яшчэ не ўпэўнены, што ён натрапіў на след уцекача,



Мілер на ўсялякі выпадак выхапіў пісталет і тады зза скалы выскачыў чалавек у турэмнай вопратцы і кінуўся да рэчкі. Злавіць невядомага жывым Мілер не мог, бо скала была блізка берага і ўцякач паспеў скочыць у ваду. Засталося адно — страляць! Але ў паўзмроку трапіць было цяжка, і Мілеру давялося разрадзіць увесь свой аўтаматычны пісталет, пакуль яму пашчаслівілася параніць ці забіць злачынца. Так ці так, а ён нырнуў у ваду і на паверхню больш не выплыў.

На месца падзеі неадкладна выклікана групу салдат. Метр за метрам яны абмацвалі баграмі дно рэчкі, але цела ўцекача не знашлі. На другі дзень пошукі давялося пачаць нанова і ў значна шырэйшым маштабе. Некалькі спецыяльных каманд праводзілі іх адначасова ў розных месцах, уніз па плыні. Мілер сам кіраваў працай усіх груп, нават спаў у машыне.

Пошукі цела трывалі ўжо шосты дзень, і афіцэры ў інтымных размовах усё часцей выказвалі думку, што Мілер у справе Шанье «кінуў канцы ў ваду».

Як жа былі здзіўлены ўсе, калі на сёмы дзень стала вядома, што цела знойдзена.

У Сан - Рэмі неадкладна прыбыў той самы эсэсаўскі афіцэр у чыне оберста, які быў на нарадзе ў генерала Еверса, а за ім яшчэ нейкі мужчына ў



цывільным. Абое адразу выехалі на месца, дзе быў знойдзены труп.

Агляд яго пацвердзіў думку, што гэта Поль Шанье. Праўда, хуткая плынь горскай рэчкі моцна пабіла цела ўтопленіка аб камяністае дно, асабліва твар. Знявечанае ўдарамі і распухлае ад доўгага прабывання ў вадзе, яно было настолькі дэфармаванае, што патрэба ў зверцы яго з фота Поля Шанье адразу адпала. З гэтай жа прычыны непрыдатнымі сталі і дактыласкапічныя здымкі, прывезены оберстам; іх таксама нельга было зверыць з адбіткамі пальцаў утопленіка. Але адзін неабвяргальны доказ усё ж наводзіў на думку, што Мілер падстрэліў якраз уцекача з падземнага завода — нумар 2948 быў добра прыкметны на руцэ трупа.

Усё ж для канчатковага апазнання асобы забітага і складзення пра гэта афіцыяльнага пратакола вырашана было стварыць спецыяльную камісію. У яе склад, апрача эсэсаўскага афіцэра і чалавека ў цывільным, увайшлі Мілер і прадстаўнік штаба дывізіі Генрых фон Гольдрынг.

У пахмурным настрою выехаў Генрых на месца збору камісіі. Усе дні, пакуль трывалі пошукі цела, ён нерваваўся не менш самога Мілера. Няўжо макі не змаглі правесці Поля Шанье ў горы?

Яшчэ здалёк Генрых убачыў людзей на беразе рэчкі. Відавочна члены камісіі ўжо сабраліся. Трэ-





 

 

ЛЮДЗІ, СЯРОД ЯКІХ ЖЫВЕМ

# Вечарам пры газоўцы

Было гэта даўнавата. Аўтобус, чмыхнуўшы дымам, паімчаўся далей. Я застаўся адзін на прыпынку пасярэдзіне вёскі Нурэц, у Сямяціцкім павеце.

Стаяў глыбокі, цёмны вечар. Навокал ніводнай душы. Толькі дзе-ні-дзе тухлым святлом паблісквалі вокны прысадзістых хат.

Мяне цікавіў мастацкі самадзейны рух. У праўленні Аддзела БГКТ у Мілейчыцах падалі мне запіску з двумя прозвішчамі людзей, да якіх трэба было мне накіравацца.

Ды што мне зараз па гэтай запісцы, калі навокал цемра, што ўласных пальцаў не згледзіш... Вазьмі прачытай! Кіруюся тады ў найбліжэйшую хату, якая жоўтаімглавым акном глядзіць на вуліцу. Гаспадар, стары ўжо чалавек, ніяк не мог зразумець у чым справа.

— Хто самадзейнікамі кіруе? — паўтарыў мае пытанне. — А што гэта такое? Кулка ці можа спулдзельня, а?

— Татку, гэта тыя, хто камедыйку нядаўна ў нас прадстаўлялі, — паясніла малодзенькая яшчэ, чорнавалосая дзяўчына, мабыць, яго дачка.

— Дык таварыў бы па-людскі. Ідзі да солтыса, да Пятра Чайкоўскага. Ён у нас гэтымі камедыямі займаецца.

Хата Пятра Чайкоўскага стаіць на канцы вуліцы, непадалёку чыгункі, якая прабягае ля вёскі з Чаромухі ў Седльцы.

Гаспадара заўважыў я ўжо з панадворка — праз акно. Пахіліўшыся нізка над газоўкай, сядзеў за сталом з газетай у руках чалавек ужо не першай маладосці. Старэнькія, выслужаныя акуляры, трымаліся на канцы даўгаватага носа. Гаспадар папрасіў мяне за стол, на якім раскінуты былі розныя газеты, кніжкі і нейкія паперы. Сярод газет знайшоў я «Ніву», «Зялёны Штандар», «Плён», «Грамаду— Рольніка Польскага», «Аграхімію». Сапраўды, не часта ў вясковай хаце сустракаецца аж толькі розных часопісаў!

— А з «Нівай», так сказаць, даўно вы ўжо пазнаёміліся?

— Будзе, пэўна, звыш тры гады. Нейк пабачыў на вёсцы ў суседзяў. Паглядзеў, прачытаў і ад гэтага часу пачаў пастаянна падпісваць што квартал. «Ніва» наогул падабаецца мне. Чытаю ахвотна. Толькі, як Нурэц - Нурцом, а «Ніва» - «Ніваю», яшчэ ніколі ў ёй не пісалі вы пра нашую вёску.

— Павінны былі Вы самі гэта зрабіць. Вы ж зусім добра ведаеце беларускую мову. Дзе яе вывучалі?

— Па шчырасці — нідзе. Вучыўся па-руску. Яшчэ за цара. Затым у бежанстве хадзіў у школу. Маю за сабой амаль поўную сярэднюю адукацыю. У 1940 годзе савецкія органы народнай асветы паслалі мяне на настаўніцкі курс, які я пасляхова закончыў і да нападзення фашыстаў на Савецкі Саюз вучыў дзеці ў сваёй роднай вёсцы. Немцы таксама прапанавалі мне настаўніцтва ў суседняй вёсцы, але я адмовіўся, бо не хацеў служыць фашыстам.

— Чаму тады пасля вайны не захацелі настаўнічаць?

— Заняты быў другой работай. Неўзабаве пасля асвабаджэння Савецкай Арміяй нашай тэрыторыі ад гітлераўцаў у 1944 г. мясцовае насельніцтва выбрала мяне старшынёю Гміннай рады ў Мілейчыцах. Неспакойны быў тады час.

— Аж страх успамінаць, — уключаецца жонка. — Лясныя бандыты не давалі спакою. Мала калі начаваў дома.

— У 1958 годзе выбралі мяне старшынёю Мі-

(Працяг на стар. 5)

ВЕСТКІ з БССР

# ПАМЯЦІ БАЛЕСЛАВА ПРУСА



З дакладам выступае Адам Малдзіс.

Грамадскасць Беларусі адзначыла 50-годдзе з дня смерці выдатнага прадстаўніка польскага крытычнага рэалізма Балеслава Пруса.

У клубе Саюза пісьменнікаў БССР адбыўся вечар, прысвечаны памяці пісьменніка. Вечар адкрыў Максім Лужанін. Ён гаварыў аб роднасці польскай і беларускай літаратур, аб папулярнасці твораў Пруса ў Беларусі. З дакладам «Выдатны пісьменнік - рэаліст Балеслаў Прус» выступіў аспірант Інстытута літаратуры АН БССР Адам Малдзіс. Удзельнікі вечара з вялікай зацікаўленасцю выслухалі фрагменты з твораў Пруса, якія Максім Лужанін прачытаў на польскай мове, і прагледзелі дакументальныя кінафільмы аб Польшчы. Вечар быў арганізаваны Саюзам пісьменнікаў БССР, Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, Інстытутам літаратуры АН БССР. Беларускае радыё арганізавала літаратурную перадачу аб творчасці Пруса, а газета «Літаратура і мастацтва» змясціла артыкул «Люстра эпохі».



У зале вечара.

Фалькор Беласточчыны

# ЯК МУЖЫКІ СОЛЬ ПАСЕЯЛІ

(Гумарэска з Беластоцкага павета)

Жылі - былі ў даўнюю пору ў адной вёсцы мужыкі. Не скажаш, каб кепска жылі. Бо зямлю яны добрую мелі. Кінуць, бывала, зярня на загон, а яно к восені спарынёй[1] абродзіць. І расло ж на той зямлі ўсё-ўсенькае.

Вось і надумаліся мужыкі на сваім полі соль пасеяць. Гэта ж, вядома, калісь соль дарагая была.

— Пасеем, — кажуць, — разбагацеем, к пакрове солі намалаціўшы.

Выбралі яны што ні ёсць лепшы кусок зямлі пад лесам, зааралі, пасеялі соль, забаранавалі... Сталі на рунь чакаць, вакол поля ходзячы. Ходзяць тыдзень, ходзяць два, па пары пасталоў стапталі, а на полі каб хоць табе расток зазелянеў — няма ды і годзе. Бядуюць мужыкі грамадою, што і поле занялі і солі толькі ў зямлю ўвалілі.

Ажно раз ранкам убачылі на палетку дзіўныя сляды:

— Гэта маладая мядзведзіца, няйначай, на палетак занадзілася, — казалі адны.

— Ат, якая там мядзведзіца... Гэта ж старая курапаціца выграбсці соль надумалася, — гаварылі другія.

— Што ні кажы, а гэта сіла нячыстая на поле павадзілася, — рашылі трэція і гуртом па папа паслалі.

Прыехаў поп з фурманам на поле. Пакрапіў свянцонаю вадою сляды, мужыкі «Да васкрэсне Гасподзь» зацягнулі і рушылі за папом па слядах. Ідуць - ідуць і бачаць: пасярод загона нара і слядоў кругом поўна наклектана. Спявалі - спявалі, свянцілі - свянцілі, а нячысты з нары і не паказваецца. Парашылі грамадою, каб хто ўлез у нару і выцягнуў нячысціка. Усе баяцца... І прыступілі гуртом да папа:

— Як ні як, вы, бацюшка, чалавек свяцейшы ад нас, ды з крыжам у руках: нячыстая сіла вас не возьме!

Думаў - думаў поп, аглядаўся направа ды налева, але мужыкі ўсё сваё ды сваё. Перахрысціўся ён і кажа:

— Вы ж мяне за ногі трымайце, а як стану нагамі дрыгаць, дык хутчэй выцягвайце.

І палез поп у нару з крыжам поперак сябе. Нара ж воўчая была, цеснаватая. Пхаюць мужыкі папа, аж крэкчуць. Не паспелі ўвапхнуць, а поп як замеле нагамі! Духам выцягнулі яго мужыкі. Глянь, а ў папа нямашака галавы... Пачалі тут яны спорыць, ці была ў папа галава. Спорылі - спорылі, а да ладу прыйсці не могуць. Паслалі па фурмана ды і пытаюцца ў яго. А фурман на тое:

— А хто яго ведае, ці была яна. Я не прыкмеціў. Вы б у пападзі запыталі. Пайшлі мужыкі да пападзі і кажуць:

— Матушка, ці была ў бацюшкі галава?

Пападзя падумала ды мяркуе:

— Каб сказаць напэўна, дык не ведаю. Вы лепш у служанкі Марусі запытайце.

А Маруся - служанка ім:

— Сёння то я, праўда, часала бацюшку... Валасы былі, але ці галава была? Таго сказаць не магу.

Так і не даведаліся мужыкі, ці была ў папа галава, ці яе ваўкі ў нары адгрызлі. Не ведаюць яны, што гэта за нячыстая сіла на саляным полі нару выдзерла. А соль? А соль і па сённяшні дзень не ўзышла...

Апрацаваў **Алесь Чабор**

[1]) Спарыня — у даўнішніх вераваннях сялян — сцябло з дванаццаццю каласамі.

ба было паспяшацца, а ногі быццам наліліся волавам.

Члены камісіі адразу прыступілі да агляду трупа. Разам з усімі схіліўся над утопленікам і Генрых. Узрост такі самы, як і ў Андрэ, твару не пазнаць... Нумар на руцэ той самы, што быў і ў Андрэ: 2948! Чакай, чакай... Генрых прыпомніў, як Андрэ закасаў рукаў і паказаў яму вытатуіраваны нумар. У Андрэ ён быў ніжэй, ды і малюнак цыфраў выглядаў інакш!

Дык выходзіць...

Генрых нахіліўся яшчэ ніжэй, і яго позірк упаў на правую руку ўтопленіка. Чорны ногаць, пад якім запяклася кроў! Такім самым ногцям вадзіў па спіску падазроных асоб даношчык з Ла Травельса, якога ён перадаў начальніку службы СД.

«Дык вось чаму Мілер не паведаміў пра вынікі допыту Базеля!»

Генрых глянуў на Мілера і сустрэўся з яго насцярожаным позіркам. «Не, трэба не паказаць таго, што я ўсё зразумеў! Прынамсі зараз, інакш члены камісіі прыкмецяць хваляванне начальніка службы СД!» — мільганула ў галаве Генрыха, і ён, ветліва ўсміхнуўшыся, падышоў да героя сённяшняга дня.

— Дазвольце вас шчыра павіншаваць, гер маёр, са шчаслівым заканчэннем пошукаў Шанье!

Выраз трывогі знік з вачэй Мілера, на губах яго зайграла радасная ўсмешка.



Таго ж дня, у казіно, перад абедам, эсэсавец уручыў начальніку службы СД пяць тысяч марак за злаўленне, хоць і нежывога Поля Шанье.

— Ці не здаецца вам, Ганс, што я маю права разлічваць на добрую вячэру на ваш рахунак? — крыху іранічна спытаў Мілера Генрых, калі яны пасля абеда вышлі разам з казіно.

— О, з радасцю! — І магчыма, за мною лічыцца нейкі доўг — скажыце, бо я некалькі раз пазычаў у вас дробныя сумы.

— У мяне вельмі кароткая памяць на такія дробязі, і я не памятаю нашых узаемных разлічэнняў. Апрача апошняга даўгу.

— Якога гэта? — спакойна пацікавіўся Мілер.

— Майго маўчання.

Мілер спыніўся. Твар яго збялеў.

—Пашлі, пашлі, Ганс! Дык мы сябры, а між сябрамі не павінна быць сакрэтаў. І мушу прызнацца, што я проста ў захапленні ад вашай вынаходлівасці: падсунуць Базеля замест Поля Шанье!

Генрых адчуў, як устрасянулася рука Мілера, якога ён узяў пад локаць.

— Слухайце, Генрых, вы не можаце сказаць мне, як вы пра гэта даведаліся?

— Гэта мая тайна, Ганс!

— Я буду шчырым, Генрых, і адкрыю вам адну тайну, якая непасрэдна датычыць вас. Хочаце?

— Выслухаю з вялікай увагай.



— Мы ўстанавілі, што за некалькі дзён перад нападам макі на цягнік Моніка ездзіла ў Банвіль, пабыла там усяго некалькі гадзін і вярнулася невядома якім шляхам, бо цягніком не ехала. Апрача таго, ваш дзяншчык, Курт Шмідт, ведаў нумар цягніка і гадзіну яго адпраўкі з Банвіля.

Генрых задумаўся і раптам весела рассмяяўся.

— Дарагі Ганс! Калі ваша служба СД і надалей так будзе працаваць, то я не гарантую вам прыхільнасці вашага начальства. Да тайны, якую вы мне выявілі, дадайце і такія падрабязнасці: за два дні да свайго выезда ў Банвіль Моніка атрымала тэлеграму без подпіса такога зместу: «Памятайце пра абяцанку». Калі служба СД захоча даведацца, хто яе прыслаў, я магу сказаць дакладна — Генрых фон Гольдрынг! Той жа самы Гольдрынг за дзве гадзіны пасля прыбыцця Монікі ў Банвіль выехаў на ўласнай машыне ў напрамку на Сан-Рэмі і на заднім сядзэнні вёз яшчэ аднаго пасажыра, дакладней, пасажырку. І гэтай пасажыркай была Моніка... Пра больш інтымныя падрабязнасці, я спадзяюся, вы не будзеце распытваць?

У Мілера ў гэты момант быў выгляд такі разгублены, што Генрых разрагатаўся.

— І ўсё такі я вам вельмі ўдзячны, што вы мне пра гэта расказалі. Было б вельмі прыкра, калі б праз мяне ў Монікі сталіся нейкія непрыемнасці.

(Працяг на стар. 7)





 

 

# ЯКІМ КОРМАМ КАРМІЦЬ КОНІ

Самым здаровым кормам для коней ёсць паша і сена. Калі ў гаспадарцы няма добрай пашы, летам коні кормім зялёнкамі — люцэрнай, мяшанкамі аўса з вікай і ячменем або канюшынай. Да зялёнак трэба коней прызвычайваць, а то можа быць уздуцце або панос. Пасля зялёнкі нельга паіць каня. Скошанай травы даем каля 25—30 кг у дзень. **Моркву,** асабліва жоўтую і чырвоную, ахвотна з'ядаюць коні. Даваць яе трэба перш за ўсё жарабятам — 2—4 кг, жарэбным кабылам — 4—6 кг у дзень. Добрым кормам ёсць вараная **бульба.** Скармляецца яе змешаную з сечкай або вотрубамі — 15—20 кг у суткі. Сырую, дробна пасечаную бульбу даем каля 10—15 кг. Даючы сырую бульбу, трэба абломваць парасткі, таму што яны маюць атрутныя рэчывы.

**Сена** ў кармленні коней з'яўляецца асноўным харчом. Можа быць лугавое або мяшанкі люцэрны і канюшыны. Не дазваляецца скармляць заплясненалага сена, запыленага. **Салома** патрэбная для напаўнення страўніка. Даем у выглядзе сечкі або ў цэласці на закладку. Найлепшая салома ярая: аўсяная, ячменная (без асцюкоў!) і прасяная. Салома азімін — жытняя і пшанічная — менш пажыўная. Каб павялічыць страўнасць, трэба яе парыць гарачай вадой. Запарваем наступным спосабам: салому рэжам на сечку, усыпаем у шчыльную скрынку або кадушку пластамі таўшчынёю ў 20—30 см і заліваем кожны пласт варам. Пасля змачэння прыкрываем пакрыўкаю, прыціскаем каменем, акрываем плахтаю і пакідаем на 10—12 гадзін. Салому запарваем пры кожным кармленні. Нельга трымаць запаранай сечкі даўжэй чым суткі.

**Мякіну** аўса, пшаніцы, сырадэлі, канюшыны даем замест сечкі — каля 4 кг у суткі. Можна парыць так як салому. Мякіну трэба дакладна ачысціць з пяску, пылу.

**Авёс** — гэта самае добрае зерне на корм для коней. Авёс мяшаем з сечкаю. Перад змяшаннем з аўсом сечку скрапляем вадою. Коні кормлены аўсом маюць многа энергіі. Нельга карміць свежым зернем аўса.

**Ячмень** — таксама добры корм для коней. Да ячменя трэба коні прызвычайваць паступова на працягу 5—10 дзён, даючы пачаткова малыя дозы, а потым большыя. Ячмень мае цвёрдае зерне, якое можа зашкодзіць; найлепш даваць размолаты або намочаны. Добра мяшаць на палавіну з аўсом. Пшанічныя вотрубі — гэта лёгкастраўны корм, мае многа бялка і солей фосфару. Вотрубі можна даваць з сечкаю або пасыпаць бульбу. Зерне **жыта** павялічвае свой аб'ём у страўніку і часта выклікае колку. Перад скармленнем трэба змалоць або намачыць у вадзе, а потым мяшаць з сечкаю 3 кг у суткі. **Макухі** складаюць вельмі пажыўны корм. Найлепшы для коней ільняны макух. Макух даецца пакрышаны, намочаны і змешаны з другім кормам. Доза ў дзень 1 кг. Сталым дадаткам павінна быць соль. Можна ёю пасыпаць аброк, або палажыць у жлоб да лізання.

Укладаючы дозу корма на дзень, трэба памятаць, што нельга даваць адначасова зерне з сакавітымі пашамі. Моркву і буракі даваць на ноч, каб коні з'ядалі яе з сенам. Таксама на ноч найлепш даваць зялёнку. Карміць і паіць у адну пору. Паіць коні трэба перад кармленнем. Згрэтых коней не паіць, спярша даць сена, а калі адпачнуць, даць вады. Коні вельмі ўражлівыя на неадпаведнае кармленне.




1. **Правільная ўстаноўка драбінкі на сена.**
2. **Драўляны жолаб са штэпселямі для рэгуліроўкі вышыні.**
3. **Жолаб і драбінка на стойцы.**
4. **Жолаб падзелены на дзве часткі: на аброк і сена.**

# ТРЭБА ГАСПАДАРЫЦЬ ПА-НОВАМУ

(Працяг са стар. 1)

Прыклады краін з высокай механізацыяй неабвяргальна пацвярджаюць, што ад узроўня змеханізаваных прац у сельскай гаспадарцы залежыць яе прадуктыўнасць. Вось як прадстаўляецца стан механізацыі гурткоў у Гайнаўскім павеце. Сельскагаспадарчыя гурткі закупілі 23 трактары з камплетам машын і 39 агрэгатаў да малацьбы. Калі параўнаць колькасць закупкі трактараў з мінулых гадоў, то аказваецца, што ў 1960 г. закупілі 6 трактараў, у 1961 г. — 7, а ў 1962 годзе ўжо продана — 8 трактараў. Да таго папраўляецца канцэнтрацыя трактараў, таму што колькасць гурткоў з двумя трактарамі ўсё ўзрастае, а два гурткі ў Міклашэве і Дубічах Царкоўных закупілі па трэцім трактары. Чатыры гурткі падрыхтоўваюць уклады на закупку далейшых 6 трактараў.

Трэба сказаць, што машыны ў гуртках у мінулым годзе былі выкарыстаны добра. Трактары папрацавалі агулам 6744,3 гадзін, што прыпадае ў сярэднім на адзін трактар 613 гадзін, з чаго тры трактары працавалі няпоўнае паўгоддзе. Гэта на 378 гадзін больш у параўнанні з працай трактараў у 1960 годзе, калі на адзін трактар прыпадала толькі 235 гадзін. За працу трактараў гурткі атрымалі 416.219 злотых. Найлепш працавалі трактары ў Міклашэве і Вульцы каля Курашава, якія выканалі звыш 1000 гадзін працы. Але былі і гурткі, дзе не хапала ініцыятывы з боку самых членаў і старшыні гуртка. Трактары стаялі, не было трактарыстаў, ніхто не стараўся аб дробныя рамонты. Такая сітуацыя была ў Нарве і Чыжах, дзе два трактары не перапрацавалі нават 1000 гадзін. Добра былі выкарыстаны агрэгаты да малацьбы, якія агулам перапрацавалі 1032,3 гадзіны, што ў сярэднім на адзін агрэгат прыпадае 272 гадзіны. За працу атрымана 744.189 злотых даходу. І тут найлепш працаваў агрэгат у гуртку Міклашэва — 481 гадзіну, Мора — 475 гадзін. Аднак былі гурткі, у якіх перапрацавана за сезон толькі 135 гадзін — у Агародніках ці ў Тафілаўцах. Амартызацыю і рамонтны фонд гурткі выканалі добра. У выніку балансу за 1961 г. гурткі атрымалі 1.335. 657 злотых рэальнага даходу. Пасля пакрыцця ўсіх коштаў, як амартызацыі, рамонтнага фонду, аплаты абслугі, паліва і інш., якія склалі 1.037.340 злотых, гурткі атрымалі немалую суму бо 298.311 зл.

Тут трэба ведаць, што механізацыя не толькі павышае ўраджай, дае даходы, палягчае і прыспешвае працу, але дае магчымасць зарабіць моладзі і старэйшым, якія абслугоўваюць машыны. За 1961 г. гурткі выплацілі для абслугі звыш 180 тысяч злотых. Так што ёсць магчымасць заработку і што не заўсёды трэба моладзі ўцякаць у горад і шукаць работы, а добрая праца ёсць на месцы і будзе яе з кожным годам усё больш.

інж. **АЛЯКСАНДР РАЖКЕВІЧ**

# ЯЗЭПАВА ЦАГЕЛЬНЯ

**працяг са стар. 1**

Язэп напісаў умову паміж сабой і членамі кааператыва. Гэтай умовай члены кааператыва забавязаліся заплаціць Язэпу 250 тысяч зл. за цагельню: сплаціць яго доўг.

Язэп не лічыў на тое, што знойдзецца хоць адзін член каператыва, які згодзіцца падпісаць гэткую ўмову. Ён сам без застанаўлення аддаў бы цагельню і за палову гэткай цаны. І ўся гэта цяганіна з кааператывам была б непатрэбнай.

— Падпішыце гэта прашэнне да банку ў справе пазыкі, — звяртаўся ён да менш з пісьменных і тыя паставілі свае куліфоны. Больш пісьменным даваць было небяспечна, пазнаёміўшыся са зместам, папсулі б усю справу. Падрабіўшы подпісы пяці іншых членаў кааператыва, Язэп злажыў «умову» ў Рольным банку.

У банку не мелі сумнення, што кааператыў мае сваю маёмасць і можна яму даць пазыку. Клопаты ўзніклі з падпісаннем аблігацыі. Толькі двух членаў згадзілася падпісаць. Сто тысяч злотых не жарты. Усунуць галаву ў пятлю лёгка, а пасля з торбамі пойдзеш. Дый на што столькі грошай? Тысяч 10—15 на пачатак хапіла б.

Язэп сам падпісаўся за 13 асоб. Праз памылку напісаў прозвішчы, якія нават у ягонай эвідэнцыі не фігуравалі як пайшчыкі.

Пасля, беручы яшчэ два разы пазыку, Язэп не фатыгаваў наогул членаў кааператыва.

— Пашто ім ведаць, што бяру пазыку? — думаў ён. — Пачнуць зараз пытацца, дзе грошы падзеў. Банк можна абмануць, а сяляне добра ведаюць, што куплена і што зроблена.

А банк ён ашукоўваў не толькі складаючы фальшывыя аблігацыі, але і прадстаўляючы фальшывыя рахункі. Ён злажыў рахунак на пакупку сталёвага коміна ад аднаго з членаў кааператыва, на пакупку 50 тысяч цэглы на печ. Хіба ж можна было паказаць членам кааператыва гэткія рахункі? Яны ж добра ведалі, што комін быў прывезены з цагельні ў Залуках, а на печ не пайшло больш пяці тысяч цэглы, якую таксама прывёз Язэп з цагельні.

Прадстаўніку банка, які прыехаў пабачыць, што робіць кааператыў, ён паказаў вялікі касцёр дроў на панадворку Рыгора, даказваючы, што гэта дровы закупленыя цагельняй.

У ліпені завод задыміў. Першыя 40 тысяч цэглы! Пайшчыкі з гордасцю паглядалі на справу сваіх рук. Столькі працы ўложана. Гэта не паперу падпісаць. Працы яны не баяліся і з працай не лічыліся, хоць атрымоўвалі за яе грошы ў форме залічак.

— Пачакайце, рушыць наша фабрыка, — гаварыў Язэп, — усім будзе выплачана. І сяляне чакалі.

Але радасць трывала нядоўга. Печ была пабудавана няправільна. Падыходзіла вада. Дый гліна не была найлепшая. Цэгла распарылася і рассыпалася.

Трэба было пачынаць нанава. І пайшчыкі, уздыхнуўшы, зноў узяліся за работу.

Але Язэпу цагельня не была больш патрэбна. На далейшую пазыку спадзявацца было цяжка. А на даход з цагельні ён ніколі не лічыў. Больш 150 тысяч зл. з пазычаных грошай ляжала ў яго кішэні. Польскі банк і Рольны банк хай сабе дзеляцца цагельняй, з яго грошы не возьмуць, бо нічога ў яго не знойдуць.

Мінчук знік з Гарадка. Занепакоеныя члены кааператыва вусна і пісьмова прасілі яго прысці на сход і злажыць справаздачу з расходаваных грошай. Аб пазыцы 100 тыс. зл. усе пайшчыкі ведалі.

Бомба выбухла, калі банк прыслаў членам кааператыва паведамленне аб звароце пазыкі.

Антон паляцеў у Банк.

— Вы што тут выдумваеце. Членам кааператыва я ніколі не быў, ніякай пазыкі не браў, — крычаў ён перад працаўніком банку, які спакойна капашыўся ў нейкіх паперах, і, знайшоўшы аблігацыю, падсунуў яе пад нос Антону.

— Твой подпіс? — бачыш — пацверджаны праз сакратара прэзідыума грамадскай рады. Падпісаў, значыць трэба плаціць.

Антон недаўменна ўтаропіўся ў паперу, з якой вынікала, што ён у прысутнасці сакратара прэзідыума ГРН падпісаў аблігацыю.

— Ніколі я не падпісваў аблігацыі і ў прэзідыуме не быў і хвігу ад мяне дастанеце.

Трэснуўшы дзвярыма, ён выляцеў на двор.

У Гарадку зашумела, як у вуллі ў часе раення.

А працаўнік банку ў гэты час зграбным почыркам выпісваў рапарт у пракуратуру.

**В. САВА**



 

## Усякая ўсячына

Папулярным «музычным інструментам» самалійскіх пастухоў з'яўляецца мушля. Пасучы авечкі, пастухі выгрываюць на іх прыгожыя мелодыі.



## Два мільёны знаходак

Цяжка ўявіць адразу два мільёны насякомых, менавіта з такой мнагакласнай кампаніяй можа пазнаёміць маскоўскі вучоны П. Н. Філіпаў страсны падарожнік і этнамолаг за насякомымі. У шкляных яшчыках — вялікія, велічынёй з голуба, сінякрылыя бабачкі з Інданезіі, Кітая, Японіі, экзатычныя жукі — «насарогі» і малюсенькія жукі з Ймена. Пошукі вучонага прыводзілі ў пяскі Аравіі, на чорнае плато Аўганістана, на Курыльскія астравы. Разведкі Філіпава дапамаглі высвяціць заканамернасці ў жыцці кляшчоў, якія распаўсюджваюць страшныя хваробы.

Філіпаў і іншыя этнамолагі знашлі эфектыўныя метады знішчэння бульбяных жукоў какцынелід, такіх жа злосных ворагаў культурных раслін як калараздкі жук (стонка).



## Сельская гаспадарка без таямніц

# Вораг, якога не бачым

Ёсць рэчы, якія бачым, да якіх можам дакрануцца. Прырода вельмі розная і багатая. Апрача звяроў і раслін, аб якіх чалавек ведае, існуе іншы свет — свет мікраарганізмаў — недасцерагальных вокам істот. Убачыць іх можна толькі пад мікраскопам.

Да такіх дробных істот належаць бактэрыі розных хвароб, напрыклад, страшны заразак туберкулёза. У нашай беластоцкай жывёлагадоўлі не выступае гэтая хвароба. Не выступае масава (маем каля 0,5% хворага быдла). Мы п'ем малако, не баючыся, што праз яго заразімся туберкулёзам самі.

Беластоцкае ваяводства з'яўляецца другім у Польшчы, дзе туберкулёз жывёлы перастаў выступаць масава. 2 гады таму, калі лекарска - ветэрынарныя групы выехалі ў вёскі, было сцверджана, што на туберкулёз хварэе 6% кароў. Тры даследаванні падрад дазволілі выключыць хворых кароў. Гаспадары атрымалі адшкадаванні.

Некаторыя кажуць зараз: акцыя закончана. Туберкулёз нам не пагражае. Многа ў гэтым рацыі. Але не ўся. Масавая праверка кароў была фактычна генеральным наступленнем на хваробу. Дала добрыя вынікі. Але праца зусім на гэтым не закончылася. Праца працягваецца і павінна працягвацца далей.

Справа нават не ў сістэматычным кантролю, які будзе праводзіць ветэрынарная служба. Найважнейшае, каб не дапусціць да паўтарэння страшнай хваробы. Павінны знайсціся спосабы і час, каб запабягаць ёй.

Асноўныя абавязкі кожнага гаспадара — гэта адпаведнае кармленне кароў, апека, дэзінфекцыя хлявоў. Трэба даць жывёле сонца, паветра, мажлівасць руху.

Без гэтага не можа быць мовы аб належнай барацьбе з хваробай і перад усім з туберкулёзам.

Найважнейшае — кармленне. У папярэдніх нумарах «Нівы» мы падавалі метады правільнага кармлення жывёлы. Агульна трэба сказаць, што ў корме павінны быць усе патрэбныя рэчывы: бялок, углеводы, тлушч і вітаміны, а таксама т. зв. мікраэлементы. Недахоп якога - небудзь з гэтых рэчываў вядзе да няправільнасцей у абмене рэчываў, да затармажэння ўзросту, змяншэння малочнасці, аслаблення кароў. Аслабленыя каровы менш адпорныя на хваробы. Таму каровы дрэнна кармленыя часцей хварэюць і часта немагчыма іх вылечыць.

Цешачыся цудоўнай прыродай, якая акружае нас, нельга забываць аб свеце нябачных істот, якія могуць стацца нашым ворагам.

**Інж. М. Сухажэбрскі**

## АБ МАЛЕНЬКІХ

Калі дзіціці спаўняецца 9 месяцаў, яго звычайна адымаюць ад грудзей. Аднак, калі гэтая пара прыпадае на вясну або лета, трэба пачакаць да восені.

У мацярынскім малацэ ёсць рэчывы, якія не толькі неабходны для нармальнага развіцця дзіцяці, але і засцерагаюць яго ад раду захворванняў, у тым ліку страўнікава - кішачных.

Калі захворвае дзіця, якое разам з грудным малаком атрымлівае і прыкорм, то лепей часова перавесці яго на адно мацярынскае малако. Яно з'яўляецца добрым лякарствам для дзіцяці.

# ЭНЗЫМЫ

Людская цікаўнасць не мае граніц. Не дае яна спакою бязмернасці космасу і ядру атама. А сколькі яшчэ ёсць невядомага ў гэтым жа самым гарачым супе.

Складаемся мы больш-менш з 75 прац. вады. У гэтай вадзе бесперапынна адбываецца шмат працэсаў распаду і сінтэзу.

На працягу мінуты распадаецца ў нас самых 200 мільёнаў чырвоных крывяных шарыкаў і столькі ўтвараецца нанава. Пасля трох месяцаў няма ў нас ніводнага «старога» эрытроцыту. Плазма крыві цалкам змяняецца на працягу двух месяцаў. Нават у тучных людзей абмен тлушчу не працягваецца даўжэй, як паўгода. Змяняецца ў нас самых усё — косці, мускулы, кроў і г. д.

Жыццё — гэта форма існавання бялка. Энзымы, альбо ферменты — гэта назва тых цудатворцаў, якія нанава ствараюць магчымасці бесперапыннага абмену ў жывым арганізме. Ферменты і ферментацыі (квасненне малака, ферментацыя воцатавая і алкагольная) былі вядомыя з даўніх часоў. Алкаголь таксама вынік ферментацыі. Аднак толькі ў 1897 годзе супольна браты Бухнэравы адкрылі, што пры дапамозе дрожджавага настою можна цукар разлажыць на алкаголь і вуглякіслы газ ($CO_2$).

Ёсць шмат доказаў, што ў адной клетцы адбываецца вельмі многа энзымаў.



## Парады нашага праўніка

# Прымусовае спагнанне аліментаў

Да нядаўна здаралася неадназова, што жанчына, маючы рашэнне суда, не магла спагнаць прысуджаных на яе дзяцей аліментаў. Цяжкасці асноўваліся на тым, што забавязаны да ўплаты аліментаў мог змяніць месца жыхарства і працы, а таксама паразумецца з кіраўніцтвам прадпрыемства, якое падкладала рашэнне суда пад сукно.

Цярпела на гэтым жанчына, на плечы якой клаўся ўвесь цяжар утрымання дзяцей, цярпела на гэтым павага судовых органаў, рашэнне якіх аставалася на паперы.

Змена судаводства праведзеная рашэннем сейма ад 15 лютага бягучага года кладзе гэтаму канец.

Перад усім рашэнне забавязвае судовага выканаўцу (каморніка) ўстанавіць месца пражывання плацільшчыка аліментаў. Гэты абавязак дагэтуль належаў да жанчыны, для якой выкананне яго было часта не пад сілу. Цяпер на жаданне судовага выканаўцы прэзідыя мясцовых рад павінны інфармаваць аб месцы пражывання плацільшчыка.

Прадпрыемства або інстытуцыя, дзе працуе плацільшчык аліментаў, маюць абавязак у выпадку змены яго месца працы паведаміць аб гэтым судовага выканаўцу, а рашэнне суда пераслаць кіраўніцтву прадпрыемства, да якога перайшоў на працу плацільшчык. Дапаможным пры ўстанаўленні новага месца працы з'яўляецца ўпісанне ў пасведчанні працы заўвагі аб абавязку ўплачвання аліментаў.

Новае прадпрыемства, атрымаўшы гэткае пасведчанне працы, абавязана паведаміць аб гэтым судовага выканаўцу і запатрабаваць з папярэдняга месца працы рашэнне суда. Калі прадпрыемства прымае да працы каго без пасведчання працы, то, устанавіўшы пры дапамозе пашпарту або кніжкі сацыяльнага страхавання папярэдняе месца працы плацільшчыка, паведамляе аб прыняцці да працы кіраўніцтва папярэдняга прадпрыемства.

Рашэнне ўвяло магчымасць пакарання штрафам да 2 тысяч зл. кіраўніка прадпрыемства, які не выконвае абавязкаў сцягвання з зарплаты аліментаў згодна з выканаўчым лістам, або не выконвае іншых абавязкаў патрэбных да спагнання аліментаў.

Усе гэтыя меры безумоўна выдатна памогуць змусіць злосных неплацільшчыкаў аліментаў да выконвання іх абавязкаў.




Дарагое Сэрцайка! Прабач за гэтае пісьмо. Але мне зараз вельмі, вельмі цяжка і я не ведаю, што рабіць. Раскажу ўсё па парадку. Алу я бачыў многа разоў да нашага першага знаёмства. Я ведаў яе імя. Мне было прыемна з ёю ехаць у адным аўтобусе, сустрэцца на вуліцы. І вось нарэшце мы пазнаёміліся. Я ніколі не забуду гэты дзень. Мне здаецца, што ніколі не сустракаў яшчэ такой цудоўнай дзяўчыны. Увесь час я думаю толькі пра яе, нават тады, калі засынаю — у думках Ала.

Нядаўна мы былі на танцах у мястэчку, ад якога я жыву 2 км, а Ала 1 км. Я танцую толькі вясковыя танцы, а розных там «выкрутасаў» яшчэ добра не навучыўся. Таму я ўвесь вечар глядзеў, як танцавала Ала. Атрымалася так, што ў гэты вечар яна і дамоў ішла з другім кавалерам. Але я не надаў гэтаму значэння. На другі дзень я сустрэў Алу, але яна сказала, што не мае часу пагаварыць са мной, бо яе чакаюць дома. Мы дамовіліся, што сустрэнемся на другі дзень у 19 гадзін. Але Ала на спатканне не прыйшла. Пасля гэтага я не мог нічога рабіць. Ападалі мне рукі. У галаву прыйшла думка напісаць да Алы пісьмо, хаця і жывем так блізка.

Я пісаў, што кахаю яе, і пісаў шчырую праўду. Я спадзяваўся, што Ала мяне зразумее. І калі праз некалькі дзён убачыў яе і здагадаўся, што яна мяне чакае, вельмі ўзрадаваўся. Але радаваўся я рана. Ала сказала, што лепш зрабіць так, каб гэта сустрэча была апошняй. А потым дадала: «Няхай паміж намі будуць толькі сяброўскія адносіны».

«Я ж кахаю цябе, Ала», — хацелася мне крыкнуць на ўвесь голас. Ала, быццам адгадаўшы мае думкі, сказала, што калі ў мяне ёсць кропля волі, то я павінен стрымліваць свае пачуцці. Але я не разумею гэтага і цяпер. Я думаю, што Ала няправільна гаворыць.

Дарагое Сэрцайка, я вельмі прашу зразумець мяне і параіць што-небудзь. Тое, аб чым я напісаў, шчырая праўда. Я кахаю Алу, але не ведаю, што мне рабіць.

Міраслаў

Цяжка, Міраслаў, адказаць на тваё пытанне. Магчыма Ала яшчэ і сама добра не разумее сваіх пачуццяў да цябе, бо яна амаль зусім цябе не ведае.

Што ж рабіць? Нездарма народная прымаўка гаворыць: «Насільна мілым не будзеш». Гэта, вядома, цяжка, калі любімая дзяўчына цябе не кахае. Проста старайся перамагчы сябе, знайсці ў сабе сілу волі, мужнасць адмовіцца ад гэтага кахання, або змагайся за яго. Табе больш відаць, што рабіць.

**Сэрцайка**

# Трыбуна чытачоў

## Некалькі слоў пра Ялёнку

Вёска Ялёнка (Гайнаўскі павет) невялікая. Яна радыёфікавана і электрыфікавана. Дамы ў ёй прыгожыя, будынкі гаспадарчага прызначэння таксама ў поўным парадку. У шматлікіх прадстаўнікоў моладзі — матацыклы. Хлопцы даюць усім зразумець, што ездзіць маторам куды больш ганарова, чым веласіпедам, які аджывае свой век. Ёсць у вёсцы чатырохкласная школа, існуе тут таксама і партыйная арганізацыя.

Гэта і ўсё пра Ялёнку, калі глянуць на яе першым позіркам. А калі глыбей паглядзець у жыццё вёскі?

Жыхары вёскі незадаволены класіфікацыяй сваіх грунтаў. У 1960 годзе адбылася ў вёсцы класіфікацыя. Зямля тут пясчаная. Пасля класіфікацыі выявілася, што пясок у Ялёнцы мае высокаякасную вартасць. Шмат знайшлося і 4 класа. З гэтым сяляне не хочуць згадзіцца. Усюды пісалі заявы аб паўторнай класіфікацыі сваіх грунтаў, аднак ніхто не адгукнуўся.

Нельга не ўспомніць пра тутэйшую моладзь. Яна, як і ўсюды, любіць патанцаваць, паспяваць на свята, а таксама і выпіць. Але боек тут не бывае ні на забаве, ні на вечарынках. Моладзь тут культурная. Несумненна ўзровень яе яшчэ вышэй падняўся б, каб была тут нейкая маладзёжная арганізацыя. На жаль яе няма.

**Мікалай Панфілюк**

## Практычная школа

У Шымках восенню 1960 г. арганізавана школу сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Гэтая школа адкрыла перад нашай моладдзю перспектывы лепшай і больш рэзультатыўнай працы на гаспадарцы. Толькі не ўся моладзь яшчэ правільна ацэньвае гэту школу. Напрыклад, у ёй вельмі мала моладзі з Шымак. А школа ж на месцы, з іншых вёсак ходзяць у яе па некалькі кіламетраў, і ходзяць рэгулярна. Трэба адзначыць, што моладзь, якая ходзіць у школу, вучыцца добра.

**Мікалай**
Старая Луплянка

## Наша бібліятэка

Наша бібліятэка добра абсталявана. Шмат у ёй розных кніжак і часопісаў. Яна заўсёды чыстая і добры ў ёй парадак. У такую бібліятэку прыемна зайсці. Таму карыстаецца яна ў нас заслужанай славай і мае шмат чытачоў.

Загадчыкам бібліятэкі з'яўляецца Надзя Гапуновіч. Яна вельмі ветліва адносіцца да наведвальнікаў, заўсёды дапаможа знайсці цікавую кніжку, а дзяцей часта запрашае «на байкі».

**Сцёпа Грыгарук**
Галады

## Наш солтыс

У нас солтысам Уладзімір Кананюк. Выбраны ён на тры вёскі: Успаршчыну, Навіны і Кавелу. Гэта вельмі добры солтыс. Нягледзячы на свае 50 год, ён рухлівы чалавек і добра дбае пра інтарэсы сялян і дзяржавы.

**Зіна Ялінік**
Навіны

## Школа ў Ляшуках

Школа ў Ляшуках існуе шмат гадоў. Многа вучняў выйшла ў свет з гэтай школы, многа настаўнікаў тут працавала. Да 1961 года наша школа змяшчалася ў адным будынку дзяржаўным і ў двух прыватных. Шмат тады даставалася і вучням, і настаўнікам: у дождж і ў мароз вымушаны былі яны хадзіць ад будынка да будынка. Але ўсё гэта цяпер толькі ўспаміны. Дзеці з Ляшукоў атрымалі новую, вялікую і светлую школу. Зараз у Ляшуцкай школе працуе пяць настаўнікаў. Яны вучаць 120 вучняў. Загадчыкам школы з'яўляецца Аляксандр Харкевіч, які ў гэтай школе вучыць ужо 17 год. У школе ёсць бібліятэка, якая мае шмат беларускіх і польскіх кніжак. Школа абгароджана плотам, навокал яе растуць дрэўцы. Ля школы ёсць школьны агарод і прыгожыя клумбы, якія вучні зрабілі ў гэтым годзе.

**Алесь Лоначка**
Ляшукі

## Нашай вёсцы не страшны гром

У мінулых гадах наша вёска мела заўсёды вялікія страты ад грому. Шмат грошай выдавала наша дзяржава на адбудову спаленых громам хатаў, клуняў і хлявоў. У мінулым годзе жыхары Ласінкі вырашылі змагацца з громам. Яны залажылі ў вёсцы грамаадводы. Цана грамаадвода 50 зл., а прадухіляе няшчасце, якога і ў тысячах злотых не злічыш.

**Янка Керсноўскі**
Ласінка

## Пра вясковы спорт

Непрыкметна надыйшло лета. Усюды спартыўны сезон у разгары. Вось і наша моладзь актыўна ўключаецца ў спартыўнае жыццё. Мае ўжо яна пэўныя дасягненні. Аднак хачу звярнуць увагу на недахопы.

Адмоўнай рысай нашага вясковага спорту з'яўляецца малы ўдзел у ім вясковых дзяўчат. Як ні дзіўна, але яшчэ ў нас на вёсцы дзяўчыну у спартыўным касцюме лічаць нейкай распусніцай. Трэба дзяўчатам дапамагчы бараніць іх ад злых языкоў вясковых шаптух, тады, несумненна, больш будзе іх у шэрагах спартсменак.

Калі моладзь наша хоча пайграць у валейбол, працягвае праз дарогу сетку і так ідзе гульня. Кожны, хто едзе дарогай, спыняе гульню. На вуліцы гуляецца таксама і ў лапту, два агні і агурка. Здараюцца непаразуменні, адны перашкаджаюць другім.

ГРН у Старым Ляўкове павінна выдзяліць адпаведную плошчу на спартыўныя гульні. Гэта было б па-гаспадарску і гэта быў бы новы штуршок да новых дасягненняў у спорце ў нас на вёсцы.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

## З жыцця Варшаўскага Аддзела БГКТ

На чарговым пасяджэнні дыскусійнага клуба Б. Манкевіч выступіў з дакладам «Беларусы на шырокім свеце».

Пасля даклада адбылася цікавая дыскусія.

*

У сувязі з Міжнародным днём дзіцяці адбыўся аўтарскі вечар Віктара Шведа, на якім паэт прачытаў свае дзіцячыя вершы.

*

15 чэрвеня г. г. у памяшканні Варшаўскага Аддзела БГКТ наладжана сустрэчу з вядомым паэтам Савецкай Беларусі Максімам Лужаніным. Паэт падзяліўся з прысутнымі ўспамінамі аб Янку Купале і Якубе Коласе і прачытаў некалькі сваіх вершаў.

*

Член Праўлення Варшаўскага Аддзела БГКТ Р. Адамовіч 22 чэрвеня падзяліўся сваімі ўражаннямі з пабыўкі ў Англіі, Францыі, Бельгіі і Галандыі.

**В. Ш.**

## Што край, то абычай

Культурнае жыццё людзей пашыраецца з года ў год. Растуць мастацкія гурткі, моладзь адной вёскі пашырае сяброўства са сваімі суседзямі. Але здараюцца паміж моладдзю і вялікія недарэчнасці.

Не так даўно ў вёсцы Дубічы Царкоўныя дзейнічаў мастацкі гурток. Цяпер перастаў. Чаму? У вёсцы ж шмат моладзі! Знайшліся такія, якія стараліся перашкодзіць у працы самадзейнікаў. І ім гэта ўдалося. Яны адгаварылі дзяўчат. Адышлі дзяўчаты, распаўся гурток.

Няма тут згоды паміж моладдзю. Адны адрамантуюць танцпляцоўку, іншыя на другі дзень яе паломяць. Чаму гэта так?

Па суседску з Дубічамі ёсць вёска Грабавец. Даволі вялікая і шмат у ёй моладзі. Але няма ў ёй ніякай маладзёжнай арганізацыі. Чаму? Таму, што людзі тут жывуць з культурай так, як жылі нашы дзяды і прадзяды. Моладзь Грабаўца дзеліцца на дзве часткі, адна частка да школы, а другая — ад школы да канца. Абы забава, заўсёды паміж гэтымі групамі авантуры (адны да другіх ідуць на забавы).

Трэба, каб моладзь усіх вёсак сябравала паміж сабою. Тады і мастацкі рух узрасце, і людзі зразумеюць, што культура гэта вялікая рэч.

**Мікола Корх**
сакр. гур. БГКТ
стар. гур. ЗМВ
у Дубічах Царкоўных

(Працяг са стар. 3)

— Рады, што ўсё высветлілася так проста. А ведаеце што, Генрых? Пераходзьце да службы СД! Пры вашых здольнасцях і сувязях вы б маглі зрабіць бліскучую кар'еру!

— Падумаю, падумаю, Ганс. Гэта прапанова мяне больш зацікавіла, чым ваша тайна.

— О, у мяне ёсць яшчэ адна. Зойдзем да мяне, і вы пераканаецеся, што я сапраўдны ваш друг!

У сябе ў кабінеце Мілер адкрыў сейф, узяў з паліцы нейкую папку, адшукаў сярод іншых папераў невялічкі канверт і падаў яго Генрыху.

Генрых узяў канверт і кінуў позірк на паштовы штамп.

— Монтафлер?

Рушыўшы плячыма, Генрых выцягнуў з канверта ліст і, разгарнуўшы яго, глянуў на подпіс. Але ліст быў ананімны. Невядомы карэспандэнт больш-менш дакладна перадаваў абставіны пераходу Гольдрынга да нямецкіх войск і выказваў думку, што якраз ён перадаў рускаму камандаванню план аперацыі «жалезны кулак», а магчыма, і аперацыі «зялёны шпацыр». Аўтар ліста раіў яшчэ раз праверыць асобу Гольдрынга.

121

Генрых глянуў на дату. Ліст быў напісаны за некалькі дзён да яго паездкі ў Ліён. Вось, праверка у Шамбрэі, была безумоўна павязана з гэтым лістам.

Па знаёмаму почырку Генрых здагадваўся, хто напісаў гэты данос.

— Дзякую, Ганс! Вы мяне крыху развесялілі. Аўтар ліста, відавочна, вельмі наіўны чалавек. Што, калі б гэтую пісаніну пабачыў Бертгольд! Ён ацаніў бы гэта, як вылазку супраць яго асобы.

Мілер разгублена маргнуў вачыма.

— Божа мой, Генрых! Я ж сам ацаніў дурную ананімку як кур'ёз, таму толькі і збярог яе, каб паказаць вам. А цяпер, калі мы з вамі пасмяяліся...

Маёр выняў з кішэні запальнічку і падпаліў ананімны ліст.

Вярнуўшыся дамоў, Генрых кінуўся да аднаго з чамаданаў, дзе быў падарунак маёра Шульца — фота генерала Даніеля на фоне карты. Генрых уважліва прыглядзеўся зробленаму на ім подпісу, параўноўваючы почырк маёра з почыркам аўтара ананімнага ліста.

Так, памыліцца было немагчыма — данос напісаў, як і здагадваўся Генрых, якраз маёр Шульц!

(Працяг за тыдзень)

122




Праграма
ад 9—15. VII. 1962 г.

**ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ**

**Белавежа**
„Kłopoty z miłością" (NRD), 10—12. „Tajemnica szyfru" (rumuński), 13—15.

**Кляшчэлі**
„Profesorek" (franc.), 10—12. „Marcin w obłokach" (jugosł.), 13—15.

**Навасады**
„Salwa o świcie" (radz.), 14—15.

**Нараў**
„Zwykła historia" (radz.), 11—15.

**Нараўка**
„Statek z dynamitem" (rumuński), 11—15.

**Чаромуха**
„Kłopoty z miłością" (NRD), 10—12. „Przed nami zakręt" (radziecki), 13—15.

**Чыжы**
„Zaduszki" (polski), 11—15.

**БЕЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Боцькі**
„Nafta" (polski), 11—15.

**Бранск**
„Król strzelców" (czeski), 10—12. „Drzwi stoją otworem" (jugosł.), 13—15.

**Гродзіск**
„Życie przeszło obok" (radz.), 14—15.

**БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ**

**Гарадок**
„Katastrofa" (węgierski), 10—12. „Wyrok" (polski), 13—15.

**Міхалова**
„Czekajcie na listy" (radz.), 10—12. „Alba Regia" (jugosł.), 13—15.

**Чорна Весь**
„Marysia i krasnoludki" (polski), 10—12. „Porzucona" (radz.), 13—15.

**СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ**

**Мельнік**
„Taka miłość" (węgierski), 10—12. „Alba Regia" (jugosł.), 13—15.

**Мілейчыцы**
„W krainie białej czapli" (węgierski), 10—12. „Jewdokia" (radziecki), 13—15.

**Нурэц**
„Drzwi stoją otworem" (jugosłowiański), 10—12. „Gorsza miłość" (węgierski), 13—15.

**САКОЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Крынкі**
„Koniec drogi" (bułgarski), 10—12. „Porucznik Marynin" (radziecki), 13—15.

**Янаў**
„Wyższa zasada" (czeski), 10—12. „Zuzanna i chłopcy" (polski) 13—15.

**ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ**

**Ліпск**
„Człowiek ze słomy" (włoski), 14—15.

**Новы Двор**
„Wzgórze 905" (jugosł.), 14—15.

У мясцовасцях Орля, Райск, Шудзялава, Сухаволя, Ружаны Сток у днях ад 16—22. VII фільмы высвятляцца не будуць.




Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.
Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.
Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2.40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-6-100024.
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $ w Europie 5 $ — w USA.
Nakład 5000 Błtk F-2



— Стань на газеце!




# КУР'ЁЗЫ

У сувязі з пачашчэннем выпадкаў абрабавання шафёраў таксі фірма «Мерседэс» пачала выпуск спецыяльных таксі, шафёры якіх абаронены ад магчымасці нападу з боку пасажыраў. Кабіна шафёра аддзелена ад пасажырскага аддзялення шкляной сценкаю, якую не прабіваюць кулі. Грошы за праезд перадаюцца праз спецыяльную шчыліну. Націснуўшы на спецыяльную педаль, шафёр можа блакіраваць замкі пасажырскага аддзялення. Адначасова ўключаецца сірэна на аўтамабілі.

### БРАНІРАВАНАЕ ТАКСІ

У горадзе Таронта (Канада) адбыліся спаборніцтвы па твістафону, г. зн. па марафону твіста. Згодна ўмоў, удзельнікі спаборніцтва павінны танцаваць бесперапынна на працягу 62 гадзін. Пераможцамі аказаліся 18-гадовая Фларэнс Гарднер і 20-гадовы Джымі Лівінгстон. Спаборніцтва яны пачалі ў розных парах. Пасля 50 гадзін Фларэнс страціла свайго партнёра, а Джымі — сваю партнёршу, якія пападалі ад знямогі. Тады Фларэнс і Джымі пачалі танцаваць разам.

### «ТВІСТАФОН»

### У ЗУБНОГА ЛЕКАРА

Чуваць званок. Лекар адкрывае дзверы і бачыць з дзесяць хлапчукоў.

— Я прышоў да вас, каб вы вырвалі мне зуб, — гаворыць адзін з іх.

— А твае таварышы чаго прышлі? — пытаецца лекар.

— Яны прышлі паслухаць, як я буду крычаць.

Прыслаў **Лявон Юрчук**

### ВЕЧАРЫНКА

На вечарынцы Трахім расказвае пра сваю жонку:

— У час цяжарнасці мая жонка чытала «Трох мушкецёраў». І што вы думалі? Нарадзіла адразу трох малайцоў.

У гэты момант Мікіта ўстаў і хутка накіраваўся да дзвярэй.

— Што табе, Мікіта?

— Мая жонка таксама цяжарная і чытае «Сорак разбойнікаў», — адказаў перапалоханы Мікіта.

Прыслаў **Янка Ясвіловіч**




### МАЛАДЫ МАТЭМАТЫК

— Скажы, Грыша: тата, мама і ты. Колькі разам асоб?

— Тры.

— А як прыдзе яшчэ дзед і бабуля?

— Дык будзе пяць.

— Выдатна.

— А як прыдзе яшчэ цётка Вольга і дзядзька Максім?

— Дык будзе шум і балаган.

Прыслаў **Коля Яканюк**



— Не бяжы так, ён не можа нас дагнаць.

### ГОСЦІ

На свята да гаспадара прыехалі госці. Вышаў таспадар на ганак і пытае прыехаўшых:

— Чаго вы да нас прыехалі?

— А ты ж нас запрашаў.

— О, мае даражэнькія, ці вы не знаецеся на жартах?

Прыслаў **Сцяпан Паляноўскі**

### ЖАЛАСЛІВЫ КУМ

Кум з кумам сядзяць за сталом і выпіваюць. Адзін так ужо напіўся, што расплакаўся, як малое дзіцё.

— Ку... кум, — кажа ён скрозь слёзы, — давай яшчэ вып'ем, бо мо' ужо на гэтым свеце не пабачымся.

— А і праўда, кумок, бо я ўжо і зараз цябе не бачу.

Прыслаў **Іван Анішчук**



— Раз, два... раз... — Га?..

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

По просьбе Крыстыны Дрэўноўскай з Юшкавага Груду, Беластоцкі павет, змяшчаем савецкую папулярную песню.

## РУСКАЯ КРАСАВІЦА

Словы М. Козьміна — Музыка В. Захарава

Кто выходит рано в поле?
Кто встречает в поле зорю?
Девушка колхозница —
Молодцу бессонница.
На груди её коса,
С поволокою глаза.
Стар и млад — вся улица —
Девушкой любуется.

Ох, недаром славится
Русская красавица!

Не она ли у дубравы,
Соревнуясь, косит травы
У крутого бережка
Черноброва девушка?
Не о ней ли по ночам
Играют песни по садам,
Топчут травы вешние
Гармонисты здешние?

Не ее ли у дубравы
Встретил нынче парень бравый,
Встретил и сторонится,
«Экая колхозница!»
Посмотрел, промолвил: «Ох,
Ох, влюбиться, не дай бог!»
А уйти не хочется,
Смотрит, не насмотрится.

Не она ль к реке подходит,
Светлых глаз с воды не сводит,
К речке наклоняется,
Смотрит, удивляется:
«Неужели это я,
Может, алая заря
В небе разгорается,
В речке отражается?»

Не заря повинна в этом,
Хороша зимой и летом
Та, что всюду славится,
Девушка-красавица.
Что же скажете тогда,
Когда яркая звезда
На груди появится,
Та, что полагается.

Ох, недаром славится
Русская красавица!



— Ужо не любіш мяне, так як перад шлюбам.
— Магчыма. Ніколі я не любіў замужніх.

## Дзіўная гісторыя

Зусім нядаўна, людзі добрыя, здарылася са мною дзіўная гісторыя. Дакладней кажучы, меў я кашмарную прыгоду, на сам успамін якой кроў халадзее.

Дазвольце, мілыя чытачы, расказаць вам усё па чарзе, як трэба.

Сабраўся я са сваёй бабай у горад па нявіннай справе — пагладзець кінакарціну ў добрым кінатэатры. А то надаелі мне нашы вясковыя кінасеансы.

Зразумела, з нагоды такога ўрачыстага выпадку, баба мая расфранцілася, капялюш насадзіла на галаву, бы перавернутае курынае гняздо, рукавічкі нацягнула, сумачку ўзяла, і, хоць не было дажджу, парасончык на руку падвесіла.

У горадзе людзі за намі аглядаліся. Магчыма ім баба мая спадабалася, а мо' ае капялюш, або парасон — лясун іх ведае.

Зразумела, у кіно перад касай чарга. Як інтэлігентныя людзі, стаем мы ў патыліцу і культурную гутарку пачынаем: маўляў, вычысціць пара прыбіральню і падліць дзярмом яблыні ў садзе. Угнаення такое для фруктовых дрэў першакласнае.

Між тым час бяжыць. Чарга рухаецца памалу, гэта значыць, больш стаіць, чым рухаецца.

І раптам падыходзіць да мяне засморканая дзяўчынка год васьмі, не больш, і ціхенька кажа:

— Дай, дзядзька, 2 злоты, на білет не хапае.

А я, павінен вам сказаць, меў намер за гэтыя грошы купіць шакаладную цукерку ў бліскучай паперцы: няхай, маўляў, баба пасасе шакаладку і маю ўвагу ацэніць.

Кажу гэтай дзяўчынцы:

— Пайшла прэч, жабрачка, ніякіх грошай у мяне няма.

Адышла нахабніца, на маю бабу паглядзела, потым падыходзіць і шэпча:

— Лепш дай, дзядзька, два злоты, а то горш будзе.

Даў я дзяўчынцы пстрычка, малая адскочыла і кудахкае на ўвесь голас:

— Не сорамна табе, татку, я два дні хлеба не бачыла, а ты з краляй па кіно ходзіш!

Людзі ў чарзе азіраюцца, мяне аглядаюць.

Дзяўчынка галосіць далей:

— Мамка хворая цябе чакае, а ты родную дачку не прызнаеш!

Грамадзянін невядомы з чаргі кажа:

— Вось стары бессаромнік, роднае дзіцё адганяе!

Баба мая бачком, бачком з чаргі выскачыла і да выйсця прабіраецца, а ў мяне быццам гвоздзі закалолі ў ботах.

Я таксама намагаюся вылезці з чаргі, а дзяўчынка за куртку хапае і крычыць:

— Дай, татку, два злоты на булку, я галодная!

Думаеце не даў? А як жа! Чым хутчэй даў ёй пяць злотых і ў ногі.

Гісторыя гэта яшчэ цяпер працягваецца. Бабу маю ніяк не магу пераканаць, што гэта не маё дзіцё было.

*Дзядзька Лявон*